16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

6 • 2018
чэрвень

Тата! Заплаці аліменты!

Мікола ГІРГЕЛЬ.




У Беларусі пачалася аптымізацыя структуры дзяржактываў па ўзроўнях кіравання. Гаворка ідзе пра перадачу прадпрыемстваў з рэспубліканскага ўзроўню на камунальны.




Плануецца фінансавае аздараўленне сельскагаспадарчых арганізацый праз зніжэнне на іх фінансавай нагрузкі.

Каб працэс эканамічных пераўтварэнняў у Беларусі зрушыўся з мёртвай кропкі, трэба мяняць менталітэт не толькі народа, але таксама чыноўнікаў і экспертаў, якія распрацоўваюць рэформы. Эксперты і прадпрымальнікі бачаць асобныя праблемы і нават намагаюцца іх вырашыць. Аднак няма агульнай карціны ў цэлым.




Не ўсе чыноўнікі, якія з энтузіязмам паставіліся да новага праекта ў сферы высокіх тэхналогій, дастаткова робяць для развіцця прадпрымальніцтва ў іншых сферах эканомікі па такім жа прынцыпе.




*Па матэрыялах друку.*

# Сапраўдны мужчына

*Фельетон*

Мікола – саракагадовы беспрацоўны халасцяк, які цягне грошы з маці-пенсіянеркі і любіць выпіць. Да таго ж ён рана палысеў, пакутаваў ад лішняй вагі. Мужчына нічога не дабіўся ў жыцці, нават не імкнуўся нешта змяніць у звыклай рэчаіснасці. Ён ганарыўся сваёй свабодай, што ні ад каго не залежыць. Любімым заняткам Міколы было наведваць розныя інтэрнэт-форумы, лаяцца там, ганьбіць удзельнікаў размоў. Такім чынам ён самасцвярджаўся.

Вось і сёння мужчына звыкла адкрыў старонку аднаго беларускага сайта, прачытаў навіну, перагарнуў каментарыі. Затым выбраў «ахвяру», якая выказала сваю думку, і вырашыў адказаць. Хутка набіраючы тэкст, ён пасміхаўся: «Ты дурань і ..., які нічога не разумее ў жыцці. Хто ты такі, каб дэманстраваць людзям сваё ... меркаванне. Сядзі на канапе і не рыпайся. А то знайду цябе і пакажу, хто тут сапраўдны мужчына». (Замест шматкроп'я Мікола ўстаўляў нецэнзурную лексіку, якую, зразумела, мы не можам надрукаваць).

Задаволены сабой, зайшоў на сайт знаёмстваў. Перагарнуў старонкі маладых прывабных дзяўчат. Заўважыўшы сексапільную прыгажуню, прамовіў:

– Вось яна мне падыходзіць. Я ўжо бачу, як ляжу з ёй у ложку, а потым гатуе мне сняданак, прыбірае ў пакоі. Ідэальна.

Мікола хутка набраў паведамленне: «Прывітанне, анёл. Уражаны тваёй фігурай. Можа, прыедзеш да мяне вечарам у госці, паглядзім фільм, а затым ты застанешся на ўсю ноч?»

– Безумоўна, прыедзе, бо як яна можа адмовіць такому мужчыну, – прыгаворваў ён, пакуль чакаў адказу.

«Добры дзень, вы мне не цікавы. Тым больш, што запрашаць на першае спатканне такім чынам не этычна. Спачатку навучыцеся размаўляць з незнаёмымі дзяўчатамі, а потым спрабуйце ўжо знаёміцца».

Мікола не мог стрываць такой абразы, таму адрэагаваў рэзка: «Якая цаца знайшлася! Курыца ты і ..., вось хто! Безумоўна, ты прадаешся мужчынам, дык скажы, колькі каштуеш. Так і быць, падкіну табе грошай, а ты мяне абслужыш, як самага лепшага кліента. Пакажу, якім павінен быць сапраўдны мужчына! Бо ты, ..., нават не бачыла такіх!»

Прайшло пяць хвілін, і дзяўчына адказала: «Я нікому не прадаюся. Але вы такі імпульсіўны, што я згодна прыехаць заўтра. Напішыце свой адрас і чакайце!»

– Так бы адразу, а то не этычна! Вучыць яна мяне яшчэ будзе, як з жанчынамі размаўляць! – прыгаворваў Мікола, калі набіраў на клавіятуры неабходныя даныя.

На наступны дзень мужчына не знаходзіў сабе месца, уяўляў, які цудоўны вечар і ноч правядзе з прыгажуняй. Ён нават схадзіў у душ, папырскаўся парфумай. У прызначаны час у дзверы кватэры пазванілі. Амаль падскокваючы, Мікола рушыў адчыняць. Вось толькі на парозе стаяла не прыгажуня, а ўчастковы.

– Добры вечар, Мікалай Адамавіч, – павітаўся той.

– Прывітанне, што здарылася? Толькі давайце хутчэй, а то да мяне ў госці дзяўчына хутка прыйсці павінна, – прамармытаў мужчына.

– На вас паступіла заява ад грамадзянкі Вольгі Халадок. Яна прадставіла доказы абразы ад вас, – канстатаваў участковы.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

– І што? Гэта ж проста перапіска ў інтэрнэце, мне за такое нічога не будзе! – абурыўся Мікола.

– Паважаны, у заканадаўчыя артыкулы пра абразы (№189) і паклёп (№188) былі ўнесены змяненні. Зараз зачытаю, каб вы зразумелі, што я нічога не выдумляю, і ўпэўніліся ў сур'ёзнасці заявы на вас, – міліцыянер разгарнуў лісток і прадоўжыў. – Наўмыснае прыніжэнне гонару і годнасці асобы, выказанае ў непрыстойнай форме ў публічным выступе, альбо ў друкаваным ці публічна дэманстраваным творы, ці ў сродках масавай інфармацыі, альбо ў інфармацыі, распаўсюджанай у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт, іншай сеткі электрасувязі агульнага карыстання або выдзеленай сеткі электрасувязі, караецца штрафам, выпраўленчымі работамі на тэрмін да двух гадоў або арыштам, абмежаваннем свабоды тэрмінам да трох гадоў.

Мікола здзіўлена лыпаў вачамі. Ён не мог паверыць, што гэта ўсё адбываецца ў рэальнасці.

– Што мне цяпер рабіць? – ледзь чутна прамовіў мужчына.

– Зараз будзе праведзена праверка, якая пакажа далейшае развіццё справы. Але раю вам з гэтай пары больш уважліва адносіцца да таго, што і каму пішаце. А пакуль да пабачэння, хутка вас выклічуць у аддзяленне, – з гэтымі словамі міліцыянер скончыў размову і выйшаў з кватэры.

– Нічога яны не разумеюць! Я сапраўдны мужчына, а ўсе мне толькі зайздросцяць. Я пакажу, з кім яны звязаліся. Разумнымі раптоўна сталі! – крычаў Мікола.

Мужчына ўключыў камп'ютар, зайшоў на форум, выбраў «ахвяру» і пачаў набіраць тэкст: «Ты дурань і ..., які нічога не разумее ў жыцці!»...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.







## Прагноз

– Выхаднымі будзе спёка:
Сорак шэсць вышэй за нуль!
– Мабыць, брэша той сіноптык,
Быць такому пеклу скуль?
– Ат, не млей, кідай турботу.
Не хвалюйся, не згарым:
Гэта ж – дваццаць тры ў суботу
І ў нядзелю – дваццаць тры.

## Спачатку вырасці



– Што, зарплата, ў бок штурхаеш?
Мы з табою не ўцячэм,
Удваіх не пагуляем,
Бо малая ты яшчэ...

## Аўтобусны масаж




– Кіньце вы бальнічны ложак,
Лепей прапішу масаж.
Працэдура дапаможа
На ўсе сто, хранічны наш.
– Штось бяруць сумненні, доктар.
Да масажу ўжо прывык,
Бо аўтобусам дадому
Еду я ў гадзіны «пік».

## Парада

– Я да акуліста ўчора
Зрок праверыць свой хадзіў.
– Што спецыяліст гаворыць?
– Каб я азбуку вучыў...



**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*




# Судзіў заганы сатырычным словам

*Амаль палову свайго жыцця – больш за трыццаць гадоў – вядомы сатырык і гумарыст Уладзімір ПРАВАСУД (1933–2011) аддаў «Вожыку», шчыруючы ў аддзеле фельетонаў. Першы верш на старонках часопіса з'явіўся яшчэ падчас службы ў арміі, а вось штатным супрацоўнікам Уладзімір Рыгоравіч стаў у 1967-м. У літаратуру ён прыйшоў не толькі смяшыць, але і высмейваць вялікія і малыя заганы – тварыць справядлівы суд сатырычным мастацкім словам.*

*Першы зборнік вершаў У. Праваcуда «Бабрыная справа» пабачыў свет у 1973 годзе. А потым былі кнігі «Соль і перац» (1976), «Любоў без узаемнасці» (1979), «Цешча і аўтамабіль» (1984), «Прыкарытнікі» (1993) і інш. У 2008 годзе выйшаў трохтомны збор твораў: байкі, гумарыстычна-сатырычныя вершы, пародыі, эпіграмы, пераклады, нарысы...*

*Уладзімір Праваcуд быў упэўнены: той, хто мае справу з гумарам, смешнае знаходзіць даволі лёгка – яно заўсёды побач. А вось пакласці гэтае смешнае на радкі, ды яшчэ на вершаваныя, ды так, каб і чытач усміхнуўся, – гэта ўжо майстэрства, якім пісьменнік валодаў дасканала.*

*Многім урэзаўся ў памяць яго гучны, басавіты голас, сакавіты смех. Неверагодна шчыры, добразычлівы быў чалавек – адкрытая насцеж душа.*

*Сёлета, у чэрвені, Уладзіміру Праваcуду магло б споўніцца 85 гадоў...*



**Уладзімір ПРАВАСУД**

## Усё цячэ, усё мяняецца

Сказаў, здаецца, Геракліт,
Што ўсё цячэ і ўсё мяняецца.
Той афарызм, як маналіт,
Усім на дзіва, не сціраецца.

У гэтым месяцы яшчэ
Здалі на «добра» дом, як маецца,
А сёння ў доме дах цячэ
І ўвачавідкі ўсё мяняецца.

Няспраўны кран – цурчыць вада,
Сантэхнік недзе забаўляецца.
Для жыхароў жа зноў бяда:
Усё ад сырасці мяняецца.

У прадаўшчыцы недаліў –
Бакалы пенай напаўняюцца.
З той пены будуць «Жыгулі» –
Усё цячэ, усё мяняецца.

Штангіст браць чаракі «мастак» –
Да чорцікаў ён напіваецца.
Раней быў чалавек-мацак,
Ды час бяжыць – і ўсё мяняецца.

Я, можа, фарбы тут згусціў,
Бо недахопы выпраўляюцца.
Што ж, можна гэта дапусціць:
Усё цячэ, усё мяняецца.

## Хітрая Жучка

У нейкага Хамы ці Мікалая
Жучачка была малая,
Ды з хітрае такой пароды:
Як побач гаспадар, дык зроду
І да двара нікога не падпусціць –
Асцерагайцеся, бо ўкусіць!
Стараннасці яе тады мяжы няма –
Маўляў, тут хлеб свой ем я
нездарма.
Калі ж няма гаспадара,
Дык можна выцягнуць усё з таго
двара,
Бо Жучкі нібы і няма, здаецца:
Не гаўкне і не абзавецца.

Ды Жучка што! А вось работнік
іншы,
Калі начальства тут – такі ўжо
ўвішны!
Калі ж начальнік побач не сядзіць,
Ён на рабоце спіць.

## Эпітафіі

### Падхаліму

На рознай працы ў розныя гады
Ён гнуў перад начальствам сваю
спіну.
І толькі распластаўся ён тады,
Калі яго паклалі ў дамавіну.

### П'яніцы

Нябожчык быў і сапраўды мацак –
Больш літра асушаў за... так.
Яму б, нябогу, жыць яшчэ ды жыць,
А ён, як бачыце, даўно ўжо тут
ляжыць.

### Ананімшчыку

Хто ён такі? Што здарылася з ім?
Як пры жыцці, і тут ён ананім.

### Перастрахоўшчыку

Канаў – не пакідала хваляванне:
Ці ўзгоднена з кім-небудзь
пахаванне?

*«Бабрыная справа», Мн, 1973 г.*




Алег ПАПОЎ х 4.













## Паспрабуй дагадзіць

Жонка:

– Слухай, Ваня, ты толькі і можаш, што камандаваць мной...

Муж:

– А ўчора ты скардзілася, што я зусім не звяртаю на цябе ўвагі!

## Гульня слоў

Муж паглядзеў у люстэрка і засмуціўся:

– Нешта касцюм мой падсеў, цяжка зашпіліць!

Жонка:

– Таму што ты моцна «падсеў» на бульбу з салам...

## Свая хвароба

– У нашага Эдзіка ўжо даўно свая хвароба – амнезія...

– А як яна праяўляецца?

– Як толькі Эдзік заходзіць у піўную, то забывае і пра работу, і пра сям'ю...

## Не той сезон

– Чаму няма на рабочым месцы Дзяніса Іванавіча?

– Ён тут дзесьці. Вунь яго і вопратка вісіць...

– Дык гэта ж футра! А на дварэ лета даўно!

## Чаго не хапае для шчасця?

– Я не магу з ім жыць! – скардзіцца жанчына сяброўцы, расказваючы пра свайго новага мужа.

– Ён акружыў мяне каханнем, увагай, кветкамі і падарункамі. Але ж няма крэатыву і ні кропелькі адрэналіну...

– Вяртайся да першага, – раіць сяброўка. – Ён і паб'е цябе, і паганяе. Будзеш, як раней, у форме і ... з сінякамі!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*






*Таццяна Міхайлаўна Чэкед – член літаратурнай суполкі «Пралеска». Аўтар чатырох кніг для дзяцей: «Сто загадок для ребят» (2015 г.), «Петушок клевал снежок» (2015 г.), «Вясёлы аўтобус» (2016 г.), «Квак-математик» (2017 г.). Піша вершы, прозу, тэксты песень, прыдумляе казкі, загадкі на рускай і беларускай мовах для дарослых і дзяцей на самую разнастайную тэматыку. Любіць выступаць перад гледачамі са сваімі творамі ў бібліятэках, школах, дзіцячых прытулках. Гэта пісьменніца і паэтэса – лаўрэат шматлікіх конкурсаў і фестываляў, як беларускіх, так і міжнародных.*

*Таццяна Міхайлаўна публікуецца ў часопісах і газетах «Родная прырода», «Вясёлка», «Арэлі», «Метамарфозы», «Свет жывёл», «Эколаг і Я», «Гаспадыня», «Гомельская праўда», «Гомельскія ведамасці», «Савецкі раён», «Звязда». Віншуем яе з дэбютам у «Вожыку»!*

## У запас

*Гісторыйка*

Баба Тома на выхадных прыехала з горада на сядзібу, што засталася мужу ад маці. І з самай раніцы поркалася на градках. Пустазелле – на ўвесь агарод, і гаспадыня не ведала, за што ў першую чаргу хапацца. Бліжэй да абеду нечакана да яе завітаў унук Санька. Жыў ён недалёка ў другой сваёй бабулі.

Хлопчык моўчкі пахадзіў каля бабы Томы, паглядзеў, як тая поле грады. Нарэшце запытаў:

– Бабуля, а ты ўмееш гуляць у шашкі? – і тут жа патлумачыў: – Бо ўсе заняты працай, і я не магу знайсці праціўніка.

Старая засмяялася з дзіцячай наіўнасці і прапанавала:

– Добра, пойдзем у хату, я якраз збіралася перадыхнуць, дык і складу табе кампанію.

І вось, замест таго, каб патраціць час на прыгатаванне якой-небудзь стравы на абед, баба Тома села гуляць з унукам у шашкі.

Але тут трэба патлумачыць, што Санька вельмі любіў сасіскі. І толькі пачалася гульня, ён стаў без супынку прыгаворваць:

– Бабуля, а ведаеш, якая мая любімая страва? Сасіскі! Яны ж такія смачненькія. Я еў бы іх хоць кожны дзень, нават кожную гадзіну.

Пачуўшы гэта, баба Тома вырашыла папесціць унука і прапанавала адварыць пару сасісак.

– Яны халодныя мне яшчэ больш падабаюцца. Таму не трэба, – весела пралапатаў малы.

Не прайшло і некалькі хвілін, як мясны далікатэс быў з'едзены. А затым унук зноў пачаў расказваць пра сваю любімую страву. Зразумела, бабуля не магла праігнараваць такое. «Малады арганізм патрабуе шмат ежы», – думала яна, калі накіроўвалася па чарговую порцыю сасісак.

Аднак на гэтым усё не скончылася. На працягу цэлай гадзіны, а столькі працягвалася гульня, Санька не пераставаў паўтараць адно і тое ж. Як вы ўжо зразумелі, размова ішла пра мясны паўфабрыкат. Баба Тома, як толькі магла, старалася не звяртаць асаблівай увагі на яго словы. Не, яна не была скнарай. Прычына заключалася ў іншым. Жанчына прыехала на чатыры дні. І каб не траціць шмат часу на прыгатаванне ежы, купіла сабе сасісак для перакусу. Яна ўзяла восем штук, акурат па дзве на дзень. Ужо палову з іх яна аддала ўнуку, а астатнія пакінула сабе.

Калі Тома адпачыла, то прапанавала ўнуку прадоўжыць гульню ў наступны раз. Яна прыўстала з канапы, следам за ёй рушыў і Санька. Раптам з кішэні яго штаноў штосьці выпала на падлогу. І што ж вы думаеце гэта было? Канешне, яшчэ адна сасіска, якую Саня прыхапіў з халадзільніка бабулі загадзя. Тома нават і не заўважыла, калі ён паспеў тое зрабіць. Мабыць, калі яна затрымалася на двары, каб памыць рукі.

Бабуля здзіўлена паглядзела на Саньку, а той, апусціўшы вочы, растлумачыў:

– А гэта ў запас. Бліжэй да вечара пойдзем з сябрамі на пікнік. Агурок, памідор, хлеб у мяне ёсць, а вось сасіскі – няма. А без яе сапраўднага пікніка не атрымаецца.

Баба Тома засмяялася. У гэты момант яна паабяцала сабе, што ў другі свой прыезд парадуе ўнука і прывязе яму не цукеркі, шакаладкі, а цэлы кілаграм сасісак, якія Санька так любіць.

**Таццяна ЧЭКЕД,**
*г. Гомель.*


Пётр КОЗІЧ.

## «Даказалі»

У шлях збірала
маці сына,
Яго настройвала на
Мэту:
«У нас –
Хакейная Краіна!
Мы
даказаць павінны гэта!!!»

І ўся каманда –
чын па чыну –
Кляліся ладам
на вакзале...

Што «мы –
Хакейная краіна»,
У кожным матчы
да-
ка-
за-
лі.




**Аляксандр ЗОТАЎ,**
*Мінск,*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



## Філалагічныя замалёўкі

Тэхнічны *рэактар* кнігі.

Аператар машыннага даення *кароў са шматгадовым стажам*.

Быў складзены план успамінаў.

*Некаторыя з сініц* загінулі зімой ад *галадоўкі*.

Гэтае паселішча – калыска таленавітых кіраўнікоў.

Дырэктар адабрала ў Васіля свой локаць.

**Уважліва чытаў перыёдыку Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Не дагадзіла

Дзед улетку ледзь не плакаў:
Ну, сухмень, дый годзе!
Сыпануў ён жменьку маку
Ў студню пры гародзе.

Так хацеў, каб дзень паволі
Зададжджыўся ладна.
Ратаваць жа бульбу ў полі
Трэба неадкладна!

Спахмурнела раптам неба –
Вось і навальніца.
Град пасыпаўся на глебу,
На гарод, цяпліцу.

Сапсаваў крыху ўраджаю,
Морквы трошкі змыла.
Выйшаў дзед і хмару лае –
Бач, не дагадзіла!

«Не магла быць болей мяккай,
Лагаднейшай трохі?
У калодзеж кідаў мак я,
А не боб з гарохам!»



**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*

# Чысты чацвер

*Іранеска*

Адбылася гэта гісторыя ў пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. У той час быў вельмі папулярны гурт «Бітлз». Таму многія хлопцы хадзілі з доўгімі валасамі, як і знакамітыя музыканты. Сяргей не быў выключэннем.

Працаваў ён на машынабудаўнічым заводзе інжынерам. І яго, маладога спецыяліста, часта пасылалі ў камандзіроўкі ў вялікія і малыя гарады былога Савецкага Саюза, каб здабыць камплектуючыя для свайго завода. У гэты раз паездка здарылася перад Вялікаднем. Трэба прыгадаць, што ў хлопца была традыцыя – наведваць лазню абавязкова ў Чысты чацвер.

Уладкаваўшыся ў інтэрнаце на ўскраіне невялікага гарадка, Сяргей выглянуў у акно. На радасць хлопца парыльня размяшчалася прама праз дарогу. Гэта была самая звычайная лазня, з раскладам, дзе жанчыны і мужчыны мыліся ў розныя дні.

Сяргей прыхапіў прыналежнасці, прыдбаў венік і накіраваўся ў лазню. Касірка, пажылая, з не зусім добрым зрокам жанчына, убачыўшы праз акенца касы чалавека з доўгімі валасамі, прыязна ўсміхнулася, выдала квіток і прамовіла:

– Праходзьце, калі ласка, дзверы ў распранальню налева.

Сяргей зайшоў у памяшканне, заўважыў свабодную шафку і пачаў распранацца. У гэты ж час агледзеўся: горка чыстых тазікаў стаяла каля ўвахода ў мыйнае аддзяленне. Ён сцяміў, што праз яго можна трапіць у парыльню, аб якой ён марыў аж тры дні.

Сяргею засталося зняць толькі трусы, калі ён выпадкова зачапіў суседнюю шафку. Дзверы расчыніліся, і адтуль пад яго ногі звалілася... жаночая бялізна.

– Што за бязглуздзіца? – пачаў лаяцца хлопец.

У гэты ж момант адчыніліся дзверы, і ў распранальню ўвайшлі... тры аголеныя грацыі. Першая з іх убачыла хлопца, замерла на месцы з адкрытым ротам, потым схамянулася і гучна залямантавала:

– Вой, Божухна! Маньяк! Ратуйце!

Ад нечаканасці дзяўчына спрабавала прыкрыцца, але ўзмахам рукі незнарок зачапіла горку чыстых тазікаў, якія з грукатам паляцелі на падлогу. На гэтым справа не скончылася: прыгажуня з перапуду зрабіла крок, паслізнулася і пачала падаць на сяброўку, якая стаяла за ёй. У выніку ўсе тры грацыі паляглі, як костачкі даміно.

На шум прыбегла касірка. Убачыўшы такое відовішча, яна схапілася за сэрца і асела побач з дзяўчатамі.

Пад лямант і лаянку, схапіўшы свае рэчы, на хаду нацягваючы адзенне, Сяргей куляй выляцеў з лазні і, як спрынтар, рвануў у інтэрнат.

Наступнай раніцай хлопец начапіў цёмныя акуляры і капялюш, купіў квіток на цягнік і адправіўся ў свой горад. «Добра яшчэ, што мяне не шукае міліцыя! Мабыць, ніхто з жанчын з перапуду не запомніў, як я выглядаю»,– думаў ён, калі ўжо сядзеў у вагоне і старанна прыкрываў твар газетай.

З таго часу прайшло больш за сорак гадоў. Традыцыя хадзіць у лазню ў Чысты чацвер засталася, але Сяргей стараўся перад Вялікаднем нікуды не ад'язджаць з роднага горада. А галоўнае – пачаў уважліва чытаць усё, што напісана ў аб'явах на дзвярах.

**Валянціна ХАЛЕЦКАЯ.**




Рэдакцыя часопіса «Вожык» просіць прабачэння ў Міхася Стэфаненкі за недакладнасць выканання яго тэмы для малюнка і друкуе выпраўленую версію.




## Хочаш — гадуй, хочаш — пасі

Купілі неяк суседзі маленькае парася на кірмашы і дамовіліся, што гадаваць яго будуць разам, а калі заколюць, дык падзеляць мяса і сала па-роўнаму.

Вось прыйшоў адзін з іх праз нейкі час і кажа:

– Чуеш, Мікола, хочаш – гадуй сваю палову, хочаш – пасі, а я сваю частку парася калю.

## Адгаварыўся

Антось злавіў у сваім свіране злодзея, які выкладаў з кубельца сала. Гэта быў сусед Нупрэй.

– Што ты тут робіш? – спытаў гаспадар.

– Ката шукаю!

– Якога ката?

– Ну, свайго. Я думаў, што ты яго тут зачыніў, каб мышэй вылавіў.

## Кравец Кандрат

Ідзе п'яны кравец. Ён ніяк не можа знайсці сваю хату.

– Скажы, брат, дзе тут жыве кравец Кандрат? – пытае ён у прахожага.

Той пазірае яму ў вочы. Думае, што кравец з глузду з'ехаў.

– Ты ж сам Кандрат.

– Я не пытаю цябе, хто я. Ты мне скажы, дзе жыву.

## Паведаміў

Ідзе хлопец ля става. Бачыць – нейкі незнаёмы рыбу ловіць.

– Дзядзька! – гукнуў хлапец.

– Цыц! Не крычы, рыбу распужаеш!

Недзе праз паўгадзіны хлопец зноў звярнуўся:

– Дзядзька!

– Я каму кажу, змоўкні! І так не клюе.

Мінула яшчэ некалькі гадзін. Нічога так і не злавіў рыбак. Калі збіраўся дамоў, зноў убачыў хлопца.

– А што ты мне хацеў сказаць?

– Ды тое, што ў гэтым стаўку ўжо дзесяць гадоў рыбы няма.

## Кампліменты

– Калі гляджу на вас, не інакш, як асла бачу перад сабой.

– Не, гэтага не можа быць, бо я ж не люстэрка.

## Навошта ён памёр

Да мужчыны, які плача над магілай:

– Па кім вы так галосіце?

– Тут... ляжыць... першы муж... маёй жонкі... Ах, навошта ж ён памёр!

## Вучыся

Прыходзіць Максім з вечарыны а шостай гадзіне раніцы. Убачыўшы яго, суседка пачала крычаць на свайго сына:

– Вось у іншых дзеці ўжо даўно гаспадараць, а ты ўсё яшчэ спіш!

## Для паляўнічых

Жанчыну, якая начапіла на сябе аж дзве лісіныя шкуркі, спыталі:

– Навошта вы столькі адразу павесілі?

– Чым больш лісаў, тым больш паляўнічых, – адказала тая.

## Прынцып

Адзін падарожнік бачыць, як яго сябра кладзе ў канверт чыстую ліставую паперу, заклейвае яго, лепіць марку і піша адрас.

– Чаму ты так робіш? – зацікаўлена пытаецца першы.

– Разумееш, перад выездам я пасварыўся з жонкай, і мы цяпер не размаўляем, – адказвае другі.

*«На вясёлай хвалі», 1988 г.*



Пётр КОЗІЧ.




*Надзея ТЭФІ (Надзея Аляксандраўна ЛАХВІЦКАЯ, 1872–1952) – руская пісьменніца, аўтар гумарыстычных апавяданняў, вершаў, фельетонаў, супрацоўнік знакамітых гумарыстычных часопісаў «Сатырыкон» (1908–1913) і «Новы Сатырыкон» (1913–1918). З-пад яе пяра выйшлі такія кнігі і зборнікі, як «Гумарыстычныя апавяданні», «Учора», «Салодкія ўспаміны» і іншыя. Надзею Тэфі называлі «вытанчанай жамчужынай рускага культурнага гумару».*

## Курорт

Ці ведаеце вы, панове, што такое курорт?

Курорт складаецца з наступных элементаў: вады, доктара, хворага і музыкі.

Вада цячэ з крана ў шклянку або ў ванну.

Доктар атрымлівае грошы і падбірае лекі.

Хворы падтрымлівае доктарскае існаванне.

Музыка дапякае хворага, каб той не так хутка паправіўся.

Усё пералічанае, узятае ў пэўных дозах, утварае гарманічнае цэлае, якое называецца курортам.

Само сабой зразумела, што гэта – толькі схема, накід, кіраўніцтва для дзяцей, калі б яны пажадалі арганізаваць сабе дамашні курорцік.

На самай справе ўсё куды больш складана!

## Вада

Курортная вада перш за ўсё павінна мець дрэнны смак. Калі яна пры гэтым мае агідны выгляд, то цэніцца ўдвая даражэй і экспартуецца ў іншыя краіны як каштоўнасць. Калі ж да таго мае і брыдкі пах, то ёй цаны няма!

Уласцівасці курортнай вады самыя разнастайныя і нават узаемавыключальныя. Адна і тая ж вада лечыць ад худзізны і ад паўнаты, ад узбуджэння і ад апатыі. Яна дапамагае ад усяго, але пры абавязковай умове – праз кожныя тры дні паказвацца доктару.

Той зробіць дасведчаны твар і спытае, ці непакоіць вас левы мезенец, ці не паколвае ў правае брыво.

– Не! – спалохана адказваеце вы. – А хіба трэба, каб калола?

Доктар загадкава ўсміхнецца і нічога не адкажа, а вы потым некалькі дзён запар будзеце бязлітасна піць курортную ваду і скардзіцца знаёмым:

– Не ведаю, чаго я тут сяджу! Да гэтай пары ў правае брыво не коле. Толькі дарэмна час марную...

## Доктар

Курортны доктар – жрэц вельмі асаблівай навукі, усе вывады ён робіць і адносіць да адной прычыны.

Калі курортны доктар сядзіць каля вады, якая вылечвае ад рэўматызму, то, што б з вамі ні здарылася, ён усё вызначыць як наступствы рэўматызму.

Калі ў вас баліць зуб або памерла бабуля, а магчыма, укралі на вакзале багаж, – усё гэта сумныя наступствы застарэлага рэўматызму, якія патрабуюць піцця дзвюх шклянак вады раніцай і дзвюх вечарам, перад сном.

– Доктар, у мяне мігрэнь.

– Гэта ў вас так званы рэўматызм мозгу. Піце па тры шклянкі вады раніцай і чатыры вечарам...

– Прабачце, я хворая на рэўматызм мозгу? Ніколі не чула пра такое.

– Вы адкуль прыехалі?

– З Пецярбурга.

– Тады не дзіўна! Тры дні вы правялі ў дарозе! Навука крочыць хутка. За час паездкі зроблены каласальныя адкрыцці! Піце пяць шклянак перад сном і дванаццаць падчас яды!

У курортнага доктара ляжыць на рабочым стале вялікая кніга, у якую ён упісвае нейкія таямнічыя штукі пра сваіх хворых. Пытае:

– Гуляеце многа?

– Многа, – адказвае пацыент.

– Ага!

І пачне пісаць доўга-доўга.

Сядзіш, сочыш за яго пяром. Літар не відаць, і даводзіцца здагадвацца. Здаецца, што піша прыблізна наступнае:

– Ага! Гуляеш шмат! Вось я табе пагуляю! Як закачу табе дваццаць чатыры шклянкі бурды праз кожныя дзве гадзіны, дык перастанеш разгульваць.

Потым падыме свой дасведчаны твар, пранікнёна гляне стомленымі вачамі і скажа:

– Паспрабуйце піць шэсць шклянак. Чакаю вас праз два дні.

Вы заходзіце ў прызначаны час. Доктар памацае ваш пульс або змерае тэмпературу. Ніхто яго не асудзіць за гэта, бо трэба ж і яму што-небудзь рабіць!

Потым загадае піць не па дзве шклянкі, а чатыры паўшклянкі, што складае адно і тое ж толькі з матэматычнага пункту гледжання. У курортным разуменні чатыры паўшклянкі вартыя значна большага, чым дзве шклянкі, і той, хто п'е ўраздроб, павінен паказвацца ўрачу не праз тры, а праз два дні.

Увогуле, абавязкі курортнага доктара вельмі складаныя, адказныя і патрабуюць асаблівых ведаў...

**На беларускую мову пераклаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

Мікола МАЛЯЎКА

## Каму пашчасціла?

*Дыялог*

– Дачка ў суседа без работы –
Цяцера, пухне ад ляноты.

– Без галавы ці з галавою,
Але ж пасваталіся двое.
І не бамжы з двара, павер:
Электрык наш і мадэльер.

– Такое шчасце! І адно.
Каму ўсміхнулася яно?

– Электрыку! Дачка-цяцера
Акальцавала мадэльера.






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Жартаўлівы гараскоп

### Кім вы будзеце ў фільмах жахаў

**Авен:** памірае першым.

**Цялец:** прыходзіць дадому і знаходзіць усіх мёртвымі.

**Двайняты:** высвятляе, хто забойца.

**Рак:** той, хто кажа: «Прывітанне? Хто тут?» Быццам забойца адкажа.

**Леў:** спрабуе супрацiўляцца, але ўрэшце памірае.

**Дзева:** ахвяруе сабой.

**Шалі:** кажа: «Усім заставацца спакойнымі!» Але сам панікуе больш за іншых.

**Скарпіён:** выбягае з пакоя замест таго, каб схавацца.

**Стралец:** таемна дапамагае забойцу.

**Казярог:** не павінен быў апынуцца ў гэты час у гэтым месцы.

**Вадалей:** памрэ апошнім ці застанецца адзіным, хто выжыве.

**Рыбы:** увесь час прыдумляе план па выратаванні, але нічога не робіць.

**Даслала Алена ВАЯГА,**
*г. Мінск.*

## Пра сталасць і мудрасць

Прыходзіць мудрасць да людзей з узростам.
Ды па якой з няўцямных нам прычын
Здараецца, што час ад часу... проста
Узрост прыходзіць да людзей адзін.

Без мудрасці, без веры, без развагі
Жыве, гібее – і так з веку ў век.
Не ведаючы блізкага павагі,
Ідзе ў нябыт бязглузды чалавек.

Адно для ўсіх на небе свеціць сонца,
Адно вучэнне нам дарue бог.
А дурняў на зямлі заўжды бясконца –
Адзін на чацвярых, а мо й на трох!



**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*




*«Жыццё як ні складзецца, / Трымай у галаве: / Хто часцей смяецца, / Той даўжэй жыве». Нельга не пагадзіцца з гэтымі словамі вядомага пісьменніка Міколы Чарняўскага, узятымі з верша, што служыць своеасаблівай прадмовай да новай кнігі «У інтэрнэце ёсць усё...». Зборнік, што пабачыў свет напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», і сапраўды мае ўсе шанцы падоўжыць вам жыццё: пры чытанні гарантаваны і вясёлыя ўсмешкі, і шчыры залівісты смех (праверана на сабе). У выданне ўвайшлі як творы з ранейшых кніг аўтара, так і новыя. І вершы, і проза вызначаюцца адметным гумарыстычным стылем, трапнасцю мастацкага слова — усім тым, за што нам даўно палюбілася творчасць Мікалая Мікалаевіча.*




**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## Камар на матацыкле

Да розных з'яў прывыклі,
Такога ж не было:
Камар на матацыкле
Праступе праз сяло.
Ляціць у цёмны вечар,
Распырскваючы гразь.
Пішчыць камар:
— Знявечу!!!
Пад колы не падлазь!

На зуху — шлем глыбокі
І куртка «Адзідас».
— Я не камар-р-р,
Я — р-рокер-р-р! —
Хрыпіць, хоць позні час.
Трашчыць матор, страляе,
Віскочуць тармазы...
Не спіць ніхто — гуляе
Камар: зум-зы, зум-зы!

І — уляцеў у пастку,
Як гнаў, бы на пажар.
Лясь!
Драндулет — на часткі,
А сам камар —
Да хмар!
Крыло зламаў з наскоку
І нос — адно прысніць...
Прыслухайцеся ў змроку:
Ці то не ён, той «рокер»,
Так жаласна звініць?

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## Ці прымак, ці гаспадар?

Дзядзька Юзік прывык ужо, што кожную раніцу над падворкам чуўся вясёлы клёкат буслоў. Ён любіў гэтых белакрылых птахаў і заўсёды стараўся дапамагчы абжыцца ім на старой таполі. Не баючыся сарвацца ды патрушчыць старэчыя косці, пад умольнае божканне жонкі, усцягваў туды вясною барану ці старое кола і ўсё чакаў, чакаў, калі ж крылатыя госці прыляцяць, аблюбуюць новае гняздоўе. Каб яго заўважылі яшчэ здалёк, маглі вольна падлятаць ды садзіцца, не шкадаваў лішніх сукоў і расахатых галін: няўмольна абразаў іх, абвязаўшыся вяроўкаю, каб, крый божа, не сарвацца з вышыні. Але ж буслянка праз два-тры гады зноў зарастала, «хавалася» ў суччы ды галінах, і дзядзька Юзік з прыкрасцю назіраў, што буслы, пакружыўшы над старым гняздоўем, не садзіліся, як раней, а некуды адляталі. Мабыць, у пошуках болей прыдатнага жытла. Зноў узбірацца на верхатуру таполі не было ўжо спрыту і сілы, і на ўсё лета двор, здавалася, сірацеў, застаўшыся без буслінай «музыкі».

Апошнім разам дзядзька Юзік усцягнуў кола на спілаваную вярхушку прысадзістага ясеня, што рос каля самай адрыны. І, як дзіця, быў рады, што яго «зруб» спадабаўся буслам: яны ж у першае лета давялі жытло да ладу, абжылі яго, а пад восень выбраліся ў далёкую дарогу, паставіўшы ў ім «на крыло» не двойню, а тройню такіх цыбатых ды дзюбатых дзетак.

На старым ясені буслы гнездаваліся ўжо не адно лета. Кожны дзень узляталі і вярталіся параю. Аднае раніцы, выйшаўшы на ганак, дзядзька Юзік чамусьці не пачуў вясёлага пошчаку. Да таго ж убачыў: у гняздзе, апусціўшы дзюбу, стаіць толькі адна птушка. А дзе ж бусел? «Відаць, паляцеў на сенажаць снедаць», — падумалася дзядзьку Юзіку.

Звечарэла. Звычайна ў такі час буслы збіраюцца на начлег разам. А гэтая – зноў адна. Тое ж самае – раніцай наступнага дня. Устрывожыўся дзядзька Юзік, суседа клікнуў, які выганяў каровы з двара на пашу.

– Ты паглядзі-тка, Стась, ці не здарылася нешта. Бусел на начлег не з'явіўся. Такога ж быць не можа.

Сусед задраў галаву, зірнуў на буслянку.

– І праўда. На іх не падобна, каб недзе ды затрымаўся, да чужога гнязда прыстаў. Можа, які дурань падстрэліў ці сам дзе ў электраправады сунуўся і загінуў. Як у нас тут нядаўна.

Дзён дзесяць сумавала бусліха адна. Мусіць жа, яна, бо на палянане часцей гаспадар буслянкі лятае, а самка яйкі выседжвае. Шкада было яе дзядзьку Юзіку, ды нічога не зробіш, не дапаможаш. Гэта ж не кола ці барану ўсцягнуць на дрэва. «Што ж такое здарылася?» – не пераставаў турбавацца дзядзька Юзік. Дый сусед не заставаўся абыякавым, не-не ды цікавіўся: «Усё адна?»

Аднаго дня прылятае раптам да гняздоўя цэлая бусліная талака. Кружацца ля буслянкі, падлятаюць да бусліхі, што стаіць на крайку гнязда, а не садзяцца. Бо толькі памкнуцца да гнязда – бусліха ў бой. Не падпускае ніводнага. Гэтак працягвалася тры дні. Потым буслы паляцелі. Застаўся толькі адзін. Ён сеў на галіну пад гняздом. Доўга сядзеў, задумена водзячы дзюбаю, раз за разам падымаючы яе ўгару, дзе «трымала абарону» гаспадыня буслянкі. Нарэшце ўзмахнуў крыламі, узляцеў, зрабіў над буслянкай два кругі і... апусціўся ў гняздо, стаў побач з ёю. Шчаслівы клёкат пачуўся над вёскай. Радаваліся птушкі, радаваўся дзядзька Юзік: «Бач ты, пакахаліся ўсё ж! А можа, даравала грэх?»

А гаспадыня буслянкі і новы гаспадар, клякочучы, мілаваліся: пяшчотна бралі дзюба ў дзюбу, нібыта цалаваліся. Вяскоўцы ж дзівіліся: ці буслы адшукалі дзесьці ранейшага гаспадара-валацугу і прывялі яго да роднай буслянкі, ці любы прымак знайшоўся? Хто ведае: не спытаеш жа ў іх...




## Сіла вясны

Усё расце, цвіце: у садзе,
У лесе, полі, на акне.
Здаецца, пупышкі вылазяць
Праз скуру нават і ў мяне.

## Поры года і мода

Шчырую лоўка я рыдлёўкай,
Каб сеяць зернейка ў раллі.
Грабу-чашу зямлі галоўку,
Каб «валасы» па ёй пайшлі.

Ўзаб'е гарэза-май прычоску –
Красуні лепшай больш няма!
Спляце кастрычнік дзіва-коскі,
Ды толькі зрэжа іх зіма...

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

## Што вернецца?

Учынкі маюць здольнасць
к нам вяртацца.
Жыццё так вучыць: справай,
часам, словам.
У вёсцы Ігрэк звычай ёсць –
вітацца.
У вёсцы Ікс – начамі красці
дровы...




## Вечны закон

Адвеку гэты існуе закон.
Працуеш ты ў бюро ці
на чыгунцы,
Абавязкова спраўджваецца ён:
Чым меней думаеш – тым болей
аднадумцаў.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

## Пажаданне аднаго пытання

Мяне вы хоць рабром пастаўце,
Хоць падыміце, завастрыце,
Ды пад сукно не адкладайце –
Вазьміце ўрэшце і рашыце!

## Няма чым выхваляцца

Хваліцца ён любіў заўсёды блатам
І нейкаю рукою валасатай.
А я не меў чаго ў адказ сказаць,
Бо, хоць мне валасоў
і не займаць,
Ды гэты факт я не лічу,
прызнацца,
Нагодай для таго,
каб выхваляцца.



**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*

Андрэй СІДАРЭЙКА




*Гумарэска*

Не паспеў я агледзецца ў краме, як за спінай пачуў: «Гэта ён!»

Тут жа каля мяне з'явілася сімпатычная дзяўчына – прадавец-кансультант – і прамовіла з усмешкай:

– Добры дзень, ці магу я дапамагчы вам выбраць тавар?

Гэтую краму я наведваў неаднойчы, але так ветліва, як сёння, да мяне тут ніколі не ставіліся. Наадварот, звычайна я бачыў незадаволеныя твары супрацоўнікаў.

«Мабыць, не з той нагі ўсталі», – узнікла думка.

А дзяўчына працягвала:

– Калі спатрэбіцца кансультацыя, то, калі ласка, звяртайцеся.

– Чаму б і не? – адказаў я, бо тут не кожны дзень прапаноўвалі свае паслугі. – Дапамажыце, будзьце ласкавы, выбраць парфуму.

«Гэта сапраўды ён! – зноў пачуліся галасы за спінай. – Прыкметы супадаюць».

– Тады прайдзіце за мной, – амаль праспявала дзяўчына.

Я рушыў следам. Праз хвіліну мы апынуліся ў патрэбным аддзеле.

– Які водар вам больш за ўсё падабаецца? – запыталася прадавец.

– Розны, – адказаў я.

– Гэта правільна, – усміхнулася дзяўчына. – Трэба мець парфуму дзённую і вячэрнюю, летнюю і зімовую, штодзённую і спартыўную. Ранішняя павінна быць свежай, а на вечар лепш браць больш цяжкія водары.

За пяць хвілін кансультацыі я даведаўся пра адэкалоны і туалетныя воды, здаецца, усё, што можа быць патрэбна звычайнаму мужчыну.

– На чым спыніце выбар? – зноў праспявала кансультант.

– Вось гэтая парфума мне спадабалася.

– Цудоўна. Яна вам падыходзіць, – усміхнулася дзяўчына.

Я прайшоў да касы.

– Добры дзень, – павіталася касір, якая звычайна сядзела са змрочным тварам. – Якое цудоўнае сёння надвор'е. Якраз для водару такой парфумы.

Я збіраўся ўжо разлічвацца, як да касы падбег ахоўнік.

– Толькі што званілі з другой крамы, сказалі, што тайны пакупнік – дзяўчына-бландзінка. А не...

Тры пары вачэй утаропіліся на мяне. Першай апрытомнела касір:

– Мужчына, хутка разлічваемся, не затрымліваем чаргу.

– Зараз, зараз, – паспешліва лічыў я купюры.

Кансультант жа ў гэты час шчыра абуралася:

– Я за сёння ўжо тройчы чытала цэлую лекцыю аб правілах выбару парфумы, ажно язык забалеў! Так працаваць проста немагчыма!

У гэты момант у дзвярах з'явілася бландзінка.

«Гэта яна! – шапнула касір. – Хутка па сваіх месцах!»

– Добры дзень. Цудоўна выглядаеце! Ці магу я вам чым дапамагчы? – звярнулася кансультант да наведвальніцы.

– Канешне, – адказала яна.

Тым часам я забраў сваю парфуму і накіраваўся да выхаду. Эх, каб кожны дзень у крамы хадзілі тайныя пакупнікі! Можа, тады наш сэрвіс стаў бы лепшым?

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



Пётр КОЗІЧ.

## Няўдалая акцыя і сігналізацыя

Вова чуе смак у чарцы,
Ды нядбайны ў гаспадарцы.
Міша – змалку працавіты,
Справядлівы і адкрыты.
Вось яго бензапіла
З дрэвам песню завяла.
Заблішчалі вочы ў Вовы:
Пазайздросціў рэчы новай.
Выспеў план: пілу забраць,
Потым выгадна прадаць.
Кожны дзень няма спакою,
Сочыць пільна за пілою.
Выпаў добры шанц нарэшце –
Выхадныя, Міша ў цесця.
Вова з хаты выйшаў жвава,
Як сцямнела, і – за справу.
Хутка справіўся з замком,
У гараж зайшоў цішком.
Пілу ў рукі, ходу ў дзверы.
– Стой! Назад! – вушам не верыць.
Участковыя са зброяй.
Двое іх, а можа, трое.
Ліхтарамі асляпілі,
Шлях на выхад перакрылі.
Хто іх выклікаць паспеў?!
Позна злодзей зразумеў,
Што міліцыя спяшала
Па ахоўнаму сігналу.
***
Скарыстаўшыся з даброт цывілізацыі,
Не скупіся, браце, на сігналізацыю,
Каб адбіць навек у злодзеяў ахвоту
Плён прысвойваць гаспадарскае работы.

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*



Пётр КОЗІЧ.

**Іван КАРЭНДА**

### Падземная Муза

Я прызнаўся каханай аднойчы,
Што прыдумваю вершы ў метро,
Калі поезд па рэйках грукоча
І ад шуму трасецца нутро.

Я прызнаўся аднойчы каханай,
Што натхненне мне дорыць метро:
Там душэўныя гояцца раны,
Там спявае мой творчы настрой.

Я аднойчы каханай прызнаўся,
Што абрыдзеў даўно белы свет,
Што ў падземку ўсур'ёз закахаўся,
Буду славіць метро як паэт.

А каханая, шчырая ў словах,
Хоць і б'юць яны часам, як ток,
Мне спакойна сказала: «Гатова
Падказаць геніяльны радок.

Напішы пранікнёна, яскрава,
Каб любы зразумеў чалавек,
Як знайшла пад зямлёй цябе слава:
"Ты, метро, – мая Муза навек!"»




## Падрос...

Муж вярнуўся з камандзіроўкі. Пайшоў у ванну, а ў гэты час скрыпнулі дзверы. Мужчына паспеў заўважыць, як у праёме мільгнулі ногі ў шкарпэтках.

– Хто гэта быў? – пытаецца ён.

– Я ж табе ўжо расказвала, – спакойна адказвае жонка. – Наш дамавік!

– Як ён падрос ужо! – дзівіцца муж. – У мінулы раз у яго нага была 42-га памеру, а сёння вунь ажно 45-га!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

# Эпіграмы

## Аляксандр БЫКАЎ

### Міхасю Пазнякову

Міхась паўсюдна без прынук,
Як можа, талент тыражуе:
Паездкі. Выступы. Фэйсбук.
Апладысментаў дружных гук.
А дома – хіба што начуе...

### Міколу Шабовічу

Не трэба аніякая прапіска
(Хоць ты вазьмі і пашпарт здай),
Калі нясе яго радкі вятрыска:
«Я да цябе прапісаны, мой край!»

### Віктару Шніпу

Паэт з Міёнай шпацыруе –
Здароўе гэтак ён мацуе.
Не дапякуць цяпер мікробы.
Аўчарцы, зноў жа, – даспадобы.
Ды жонцы ўсё гэта не міла:
Шпацыру хоча і Людміла!

### Але Клемянок

Была і ў Празе, і ў Парыжы,
Манмартр пабачыла сама...
Заўжды кудысьці вострыць лыжы –
Зіма вакол ці не зіма!

### Дзмітрыю Пятровічу

Піша вершы, піша прозу
Ды спявае пакрысе.
І сябрук не стане ў позу,
А з багатага завозу
Чарку хлопцам паднясе!




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СЛІВА.

## Яўген ХВАЛЕЙ

### Дзве Вароны

*Байка*

У Вароны
Варона скрала
Скрылёчак сала.
Сяброўкі дзве
Жылі адна з адной –
Не разальеш вадой.
І раптам гэткі грамабой:
– Зладзейка ты,
Ты хцівая персона, –
Закаркала пакрыўджана Варона. –
Не думала,
Што ты паквапішся на сала,
Каб ведала, з табой
не сябравала б...
Чаго табе, скажы мне, не хапала?

І гэтак бэсціла сяброўку,
Хоць той на шыю начапляй
вяроўку...
Ды ўрэшце тут віноўніца спытала:
– А як жа сала
Ты скрылёк прыдбала?
Паведай мне хутчэй і не крычы,
Бо засмяюць нас крумкачы...
Гарластая хвіліну памаўчала,
Бо шкадавала ўжо,
Што так крычала.
– Я адкажу:
Няўрокам
Сцягнула сала я ў Сарокі...

***

Здараецца і між людзей такое –
Як кажа прымаўка:
Абое рабое.



Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ

# ЮЗІК

*Апавяданне*

Юзік Кухаль быў вялікім аматарам розыгрышаў, а яшчэ вылучаўся непераадольнай прагай да справядлівасці. Быццам яго хтосьці нябачны пад локаць штурхаў: «Давай, Юзік, вытвары што-небудзь!»

Яго маці Альжбета жыла на ўскрайку вёскі. Трымала гаспадарку, з якой упраўлялася адна. Калі была маладая, прыбіўся да яе мужчына, а потым раптоўна знік. Так у яе з'явілася дзіцятка. Дрэнным памочнікам, свавольнікам рос адзіны сынок жанчыны. Паесць – і як пойдзе па навакольных вёсках! Часта заставаўся ў некаторых гаспадароў на ўсю пасяўную ці ўборачную. Альжбета спачатку лаялася на сына, пасля змірылася і ўжо не здзіўлялася яго доўгім бадзянням. Хаця бывала, калі жанчына куды далёка адлучыцца па гаспадарцы, тым часам прымчыцца Юзік, зробіць употай якую цяжэйшую работу ды зноў дасць цягу з дому.

Так і вырас сын Альжбеты чалавекам самастойным, які меў уласнае меркаванне па кожным пытанні. Ён заўжды любіў паўсміхацца з аднаго, пашкадаваць другога, падтруніць над трэцім і павыхоўваць чацвёртага.

Амаль кожны дзень бачылі Юзіка ў суседніх вёсках за рознай работай: калоў дровы, вывозіў гной ад хатняй жывёлы, перакопваў агароды, даставаў бульбу на пасадку, араў, касіў, чысціў падворкі ад снегу... Зацікаўленасць была з абодвух бакоў: заказчык атрымліваў памагатага, а Юзік абедаў за яго кошт і свой рубель меў у кішэні.

У перапынках паміж наймамі Юзік быў у суполцы, якую ўдзельнікі між сабой называлі «Змагары за справядлівасць». Падабалася ім падпільнаваць прагнага да народнага дабра вяскоўца, а пасля патэлефанаваць і ад імя старшыні гаспадаркі паўшчуваць за крадзеж рулонаў сена, дызельнага паліва, апрацоўку калгасным трактарам уласнага надзелу без дазволу...

А неяк адбылася такая гісторыя. Даведаліся «Змагары за справядлівасць» пра махлярствы аднаго індывідуальнага прадпрымальніка. Адразу Юзік прыдумаў, як разыграць і правучыць яго.

...На тэлефон маладога бізнесмена пазваніў падатковы інспектар і запатрабаваў сцішыць абароты сваёй актыўнай дзейнасці ды падрыхтаваць дакументы для праверкі. Быццам паступіла скарга ад грамадзян на свабоднае цэнаўтварэнне пры рэалізацыі тавараў.

На ролю галоўнага правяраючага быў прызначаны, канешне ж, пранырлівы Юзік. Ён нават пагаліўся і падстрыгся для такога адказнага задання. Сябрукі рыхтавалі яго, як сапраўднага акцёра. Вельмі сур'ёзна аднесліся да будучага прадстаўлення. І адзенне падбіралі, і прычоску, і нават міміку на твары. Праз пэўны час на парозе стаяў ні даць ні ўзяць чыноўнік у гарнітурчыку і белай кашулі. Чорныя вусікі пад кірпатым носам надавалі важнасці асобе. Нарэшце, вобраз упэўненага бюракрата дапаўняла скураная пацёртая папка, якую «інспектар» моцна трымаў пад пахай.

Махнуўшы перад іпэшнікам Доўнарам самаробным службовым пасведчаннем, Кухаль тыцнуў яму пад нос нейкую паперку, быццам сапраўднае накіраванне на праверку з подпісам кіраўніка кантралюючай арганізацыі, і прадставіўся:

– Галоўны падатковы інспектар Якімаў! Дакументы за апошнія тры гады – на стол. Ды прынясіце кавы, – сказаў, як адрэзаў, Юзік.

– Б-б-будзе зроблена! – імгненна пачуўся ў адказ дрыготкі голас прадпрымальніка.

Патлумачу. З уласнага вопыту работы ў фіскальных органах ведаю пра розныя хітрыкі іпэшнікаў. І гэта ўжо вядомая справа, бо які прадпрымальнік без граху. Напрыклад, танней набыць не лепшай якасці тавар дастаткова проста, а вось здолець прадаць яго ў разы даражэй – складаней. У дакументах жа неабходна адлюстраваць патрэбныя даныя па падатковым заканадаўстве. Але хто не ахвочы да грошай...

Вось ад такога імпэту раптоўнага госця ў іпэшніка ажно лоб узмакрэў. Але праз лічаныя хвіліны на стале былі дакументы, кава і нават перакус.

– Не хвалюйцеся, Доўнар, як ёсць, так і добра! Давайце адразу праўду! Чыстасардэчнае прызнанне абавязкова ўлічыцца...

– М-м-можа д-д-да-да-мовімся? Вы ж таксама ч-ч-ча-ча-ла-век... – заікаўся іпэшнік, позіркам свідруючы правяраючага.

Як толькі бізнесмен пачаў скардзіцца на цяжкасці і паказваць свае пралікі, Юзік заўсміхаўся, паўтараючы ўголас прызнанні і крэмзаючы штосьці ў пратаколе. Душа Кухаля спявала, але знешне «падатковы інспектар» трымаўся без ярка выражаных эмоцый і толькі напіраў:

– Нават і не ведаю, як вам дапамагчы выкруціцца з такімі парушэннямі падатковага кодэсу, – разважаў услых правяраючы, кідаючы віхлявыя, слізкія позіркі на іпэшніка. – А вось на гэтай тавара-транспартнай накладной яшчэ і амерыканскія долары згадваюцца. Трыста

дваццаць сем... Вы што, аплату за тавар амерыканскай валютай бераце? Значыцца, яшчэ і заніжэнне таварнай выручкі, плюс утойванне падаткаў. Ну, спрытнюга! І на што вы разлічвалі, Доўнар?

Прадпрымальнік стагнаў, прытворна войкаў, але падсоўваў распухлы, як адкормлены кот, штодзённік з закладзеным хабарам.

Сур'ёзны інспектар разгортваў «цікавую» кнігу, ківаў галавой, пералічваючы банкноты. Калі чаканы поспех быў дасягнуты, Юзік адклеіў вусы і зарагатаў ва ўвесь свой шчарбаты рот:

– Нейкі мізэр за такую рэвізію, канешне. Я так рыхтаваўся да гэтага візіту, а вы не ацанілі... Хціві вы чалавек, Доўнар! На развітанне ўсё ж такі скажу: «Ніколі не падманвайце людзей і дзяржаву, а то зноўку сустрэнемся...»

Іпэшнік ад здзіўлення ажно рот адкрыў, але «інспектар» рэзка ўстаў і выйшаў, не дачакаўся, калі той ачуняе. І толькі дзесьці праз гадзіну Доўнар пракруціў усе дэталі «праверкі» і зразумеў, што па-майстэрску яго разыграў знаёмы Юзік Кухаль. І ажно затросся ад злосці і ўласнай бездапаможнасці:

– Колькі памятаю яго, усё дурнем прыкідваўся! А тут так разумна падмануў! Каб хто калі сказаў, што такое са мною здарыцца, ніколі б не паверыў!




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

* * *

На наступны дзень, пакуль яшчэ не аброс шчаціннем, з падказкі сябрукоў Юзік Кухаль вырашыў уласную маці да духоўнасці далучыць. Для новай сцэны апрануўся ў манаха: начапіў бараду, чорныя акуляры, а на шыю павесіў крыж.

Старая, калі сустрэла на парозе незвычайнага госця, толькі пакланілася. І тут жа пачула глухі бас пажылога чалавека: «Мір вашаму дому!»

Альжбета пільна ўглядалася ў твар мужчыны, але так нічога і не западозрыла, не прызнала ў ім свайго сына-небараку. Маці Юзіка пакорліва склала рукі на грудзях і вымавіла:

– З мірам прымаем!

– Гаспадыня, хай Езус Хрыстус наш усемагутны дабра ды здаровейка пасылае! – нараспеў казаў «манах». – І гаспадарка ваша, шаноўная пані, хай квітнее. Не хвалюйцеся, вам ёсць каму дапамагаць. Хлопец у вас кемлівы, не забываецца пра вас. Адчуваю, што ён клапоціцца пра ваш дабрабыт...

Затым падышоў да кута з абразамі, ускінуў галаву да неба і прадоўжыў:

– Ну, а калі вы, шаноўная, пачціва ставіцеся да пакрыўджаных, то не адмаўляйце і мне, рабу Божаму. Дайце грошай на аперацыю для маці. Захварэла яна цяжка.

Старая войкнула, нешта прамармытала сабе пад нос і патэпала за грубку. Нейкі час корпалася там, потым выйшла і працягнула зіхоткую пяцідзясятку. Юзік ажно зніякавеў: можа, старая пераблытала банкноты? Такія грошы за два дні не на кожнай працы заробіш. А можа, так пранікласся да чужога гора? Нешта затрэслася ўнутры яго, але змаўчаў і ледзь не выбег з хаты...

*Працяг у наступным нумары.*

*г. Маладзечна.*




## Праца такая…

Ігар часта бачыў адзін і той жа сон. Быццам бяжыць ён па лесвіцы і хоча трапіць дадому, а следам — пачвара. Хлопец спрабуе ўцячы, але ногі як каменныя, ледзь рухаюцца. А жахлівая істота ўсё бліжэй і бліжэй падбіраецца...

Шмат разоў сніўся гэты сон Ігару. Страшна было, але ён паспяваў трапіць у дом і зачыніць дзверы.

І вось неяк ноччу зноў: Ігар бяжыць, за ім гоняцца, затым ён трапляе ў сваё сховішча. Але ў галаве хлопца ўзнікла думка: «Надакучыла мне гэтая страшная беганіна!» Ён рэзка адчыняе дзверы і пытаецца ў пачвары:

— Што табе ад мяне трэба?

— Ды нічога, проста праца такая, — адказала тая, потым павярнулася і сышла.

Больш у сне за Ігарам ніхто не бегаў...

## Паляўнічы інстынкт

У Валодзі быў кот. Тоўсты і вялікі, як мамант, але хатні на ўсе сто працэнтаў. Вуліцу бачыў толькі праз акно, любіў спаць на канапе, а калі хацеў есці, уставаў на заднія лапы і жаласліва мяўкаў. Здарылася так, што жонка і дачка Валодзі паехалі на мора. Менавіта тады ў мужчыны ўзнікла ідэя-фікс: абудзіць у «страшным драпежніку» прыродныя інстынкты.

Валодзя вырашыў пайсці на радыкальныя меры. Ён не карміў ката тры дні, а затым вынес яго на вуліцу і стаў чакаць абуджэння паляўнічага інстынкту. Спачатку жывёла хавалася пад лаўкай, потым паспрабавала рабіць невялікія вылазкі. Падчас адной з іх кот заўважыў чараду галубоў. Замер. Прыпаў да зямлі. Стаў красціся да патэнцыйнай ежы... «Вось яно! Адбылося!» — радаваўся Валодзя.

Секунда да вырашальнага кідка! Звон фанфараў... Кот устае перад галубамі на заднія лапы і жаласна выдае: «Мяў!»...

## Каго не з'ядуць каты?

Маці размаўляе з дачкой.

— А давай завядзём шмат маленькіх рыбак! — прапанавала малая.

— Маруся, у нас жа два каты. Яны імгненна ўсіх рыбак вылавяць і з'ядуць, — адмовіла маці.

— Ну, давай тады птушачак завядзём.

— І іх коцікі могуць знішчыць.

— Тады давай гусака завядзём, яго не з'ядуць!

— Гусака мы самі з'ядзім!..

## Падрыхтаваўся

Бачыў хлопца і дзяўчыну, якія гулялі ў парку. Маладзіца ішла шчаслівая, з кветкамі ў адной руцэ і з беляшом у другой. Вось гэта кавалер малайчына, так добра падрыхтаваўся.

## Сапраўдная лэдзі

Маладая сямейная пара вячэрае ў рэстаране. Размаўляюць, смяюцца. У нейкі момант жонка ціха кажа: «Пайду носік папудру». Муж чакае, а каханая чамусьці не вяртаецца. Неўзабаве ад яе прыходзіць смс: «Тут пудра скончылася, прынясі сурвэтак, калі ласка».

Вось такая яна, сапраўдная лэдзі!

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Братка Вожык!

Згадзіся, што словы «зніжка» і «акцыя» ў магазіне, супермаркеце выглядаюць вельмі прывабна. А чырвоныя, жоўтыя, зялёныя цэннікі імгненна прыцягваюць увагу. Мабыць, у падсвядомасці кожнага з нас пры такіх пазначэннях на таварах прачынаецца беражлівец, прычым дастаткова часта ён няўважлівы і даверлівы. Мы можам скупляць усё па паніжаным кошце. Вось толькі здараецца так, што такое набыццё зусім не таннейшае.

Напрыклад, нядаўна зайшла ў сталічны супермаркет, убачыла чырвоны цэннік (фота 1). Толькі пацягнулася па кетчуп, як заўважыла, што зніжкі ніякай і не было. «Вось дык маркетынг!» — засмяялася я. Таму будзьце ўважлівымі і прыглядайцеся да лічбаў да і пасля памяншэння кошту.

А яшчэ вось такі цуд (фота 2) знайшла. Тут праўду гаворыць народная мудрасць — давярай, але правярай! А яркая ўпакоўка і каляровыя надпісы зусім не азначаюць, што яны праўдзівыя і ім трэба безумоўна верыць.

А якія дзіўныя акцыі бачылі вы?

**Алена ЧЫЖ,**
*г. Мінск.*







**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## Пра наравістага Пегаса

Калі Пегас кульгавы —
Не даскочыш з ім да славы.

***

Хацеў забрацца шпарка на Парнас,
Ды перашкодзіў непакорлівы Пегас.

***

Калі натхнення нуль у вас,
Не дапаможа і Пегас.

***

У паэта ёсць жонка, каханка і муза —
Ледзьве ходзіць Пегас ад вялікага грузу.

***

Які ў Пегаса вашага фураж,
Такі ў яго, вядома, і кураж.

***

Калі няма ў натхнення сілы,
То і Пегас тады бяскрылы.




## Начальнікі не працуюць?

— Ці паступіў ваш Дзіма ва ўніверсітэт?

— Не прайшоў па конкурсе. Але я супакойваю яго, каб не перажываў. Не ўсім жа начальнікамі быць, трэба ж камусьці і працаваць!..

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Не ўсе амерыканцы такія, як казаў вядомы гумарыст-сатырык Міхаіл Задорнаў. Сярод іх ёсць і мастакі-карыкатурысты, у малюнках якіх шмат розуму. Гэры ЛАРСАН — адзін з такіх.










**Вось зноў, Лары. Гэта жудаснае пачуццё, што на ложку нехта ёсць**



**Тсссс! Я хачу зрабіць дзецям сюрпрыз.**



**Валерый КУХАРЧУК**
*(спецыяльны карэспандэнт часопіса «Вожык» у ЗША)*

# Нашы ў Амерыцы

*Пра кемлівасць ды гаспадарлівасць беларуса складаюць байкі-пацешкі. Наш чалавек прыме любыя абставіны, выжыве і нават памножыць тое, што мае, ва ўсякіх умовах і асяроддзі.*

*У горадзе ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе я жыву ўжо чацвёрты год, даволі шматлікая беларуская дыяспара. Як і ўкраінская ды расійская. Праўда, усе мы, хто валодае «вялікай і магутнай», для мясцовага англамоўнага насельніцтва – «рашэн» (рускія).*

*Толькі на агульнаславянскім фоне мае землякі моцна вылучаюцца. Беларусаў з-за іх стараннасці і сумленнасці ахвотней бяруць на працу кампаніі ці прыватнікі. Многія з іх займелі ўласны паспяховы бізнес. Хаця першыя крокі на чужыне амаль кожнаму даваліся няпроста. Пра гэта мае знаёмыя цяпер успамінаюць па-рознаму: хто з лёгкай самаіроніяй, а хто – са звонкім смехам.*

*Вось некалькі гісторый, якія мне расказалі землякі.*

## «І шо то за страна…»

Баба Стэпа ні разу не была замужам. Таму ўсю сваю жаночую пяшчоту аддавала пляменнікам – дзецям брата. І калі той напрыканцы перабудовы падаўся шукаць лепшай долі ў далёкай Амерыцы, выбару ў бабы Стэпы не было. Разлукі з любімымі выхаванцамі яна б не перанесла.

Але ўжо праз месяц на чужыне жанчына занудзілася. Маўляў, не магу тут болей жыць, хачу дадому.

– Шо то за страна, шо то за мова, – абуралася жанчына. – Бог у іх – «гад» (па-англійску God), царква – «чорт» (church), а хлеб увогуле «брэд» (bread) нейкі…

Мінуў час, сціхлі эмоцыі. Баба Стэпа самастойна, без курсаў ды рэпетытараў, вывучыла англійскую мову. І цяпер яна самы паважаны ды запатрабаваны чалавек на «баме» (так нашы перасяленцы чамусьці назвалі мікрараён гарадскіх муніцыпальных кватэр). Сцепаніда Антонаўна і ў якасці перакладчыцы для пажылых суседзяў-знаёмых выступае, і ў любых уладных структурах пра інтарэсы землякоў можа паклапаціцца. А нядаўна пра яе нават напісала мясцовая гарадская газета.

Праслаўляецца зямлячка і ў Амерыцы! Прычым заслужана.

## Вушанка з водарам

Міхаіл Андрэевіч – з перасяленцаў так званай «першай хвалі», якія ў пачатку дзевяностых скарысталіся палітычнай адлігай і рушылі ў нязведаны заакіянскі свет шукаць шчасця сабе ды дзецям.

Расказваюць, што адзін селянін, які збіраўся ў Амерыку, пачаў выцягваць іржавыя цвікі са штакецін паваленага плота.

– А што, – разважаў ён, – там, мабыць, адразу рабіць няма чаго будзе. Павыпраўляю – глядзіш, спатрэбяцца.

І не палічыце вышэйсказанае за анекдот. Людзі везлі з сабой у багажы не «золата-брыльянты», а прылады працы, каб лягчэй было абжывацца на новым месцы.

Але гэтае «лірычнае» адступленне не пра нашага героя. Хаця Міша таксама валодаў прыроднай гаспадарскай хваткай. За два з лішкам дзясяткі гадоў жыцця ў Штатах ён паспеў зарабіць добрую амерыканскую пенсію, пабудаваць уласны дом у прэстыжным прыгарадным пасёлку. Зараз трымае пчаліную пасеку, разводзіць курэй-нясушак.

– Не для пракорму, а для душы, – жартуе мужчына. І са смехам успамінае свае першыя крокі ў новым свеце:

– Спачатку я з сям'ёй пасяліўся ў арандаванай кватэры двухпавярховага катэджа. Аднойчы выходжу на падворак і бачу: звярок з-пад гаспадарчай пабудовы вытыркнуўся, чхнуў ды пабег у бок агароджы. Памерамі з барсука ці бабра. Вельмі прыгожы: чорны з белым грабеньчыкам, пушыстым хвастом. Во, думаю, каб шапку пашыць! І пагнаўся за тым звярком.

Толькі першае знаёмства з амерыканскай фаўнай абярнулася для Міхаіла амаль трагедыяй. Скунс, а гэта быў менавіта ён, шчодра абдаў надзвычай настырнага чалавека смярдзючым струменем нейкай вадкасці.

Уся сям'я некалькі дзён адмывала-адчышчала небараку ды яго вопратку, а «водар» усё ніяк не выветрываўся. Пакуль нехта з больш дасведчаных суседзяў не параіў скарыстацца таматным сокам – адзіным сродкам, які здольны перабіць пах скунсавай вадкасці…

## Як жа цяпер перablытаўся свет!

За тры гады жыцця на чужыне ўпершыню вырваўся на Радзіму. Да аэрапорта імя Кенэдзі ў Нью-Ёрку падкінуць мяне пагадзіўся швагер. З Юцікі да «Вялікага яблыка» (так яшчэ нью-ёркцы чамусьці называюць свой горад) – гадзіны чатыры на машыне. Але, улічваючы загружанасць

дарог, выехалі з добрым запасам. Дабраліся дастаткова хутка, таму Сяргей прапанаваў:

– Давай завернем у Бруклін (буйны жылы раён Нью-Ёрка) у «рускі» магазін. Хоць семак накупляю, цукерак «спартакоўскіх» ці «камунаркаўскіх» дзецям...

Месца для паркоўкі знайшлі на абочыне метраў за сто ад крамы.

– Ты ідзі, – сказаў Сяргею, – а я лепш мінівэн наш папільную.

Сам жа выйшаў на тратуар размяць ногі. Раптам бачу: з прыцемку завулка вынырнула прывабная дзяўчына, якая размаўляла па мабільніку:

– Ой, Люська, не смеши! А ты? А он?

Яшчэ праз хвіліну міма прайшоў мужчына таксама з тэлефонам каля вуха:

– Значит, договорились! Только не опаздывай. Прихвати всё, что может понадобиться...

«Няўжо і сюды ўжо нашы дабраліся?» – мільганула ў галаве іранічная думка. Калі ж азірнуўся, то позірк зачапіўся за зззяючыя неонам шыльды: «Товары для детей», «Золото», «Услуги парикмахера». І гэта амаль у цэнтры самага буйнога амерыканскага горада!

...У свой родны гарадок на Берасцейшчыне прыехаў апоўначы. Радасныя слёзы сустрэчы, мама клапоціцца, куды зручней пасадзіць, чым смачным пачаставаць доўгачаканага сыночка. Калі эмоцыі ўлегліся, прапануе:

– Паглядзі ў акно. Пабач, як папрыгажэў наш горад. Светла, чыста, утульна...

Адхінаю фіранку, а на супрацьлеглым баку вуліцы замест звыклага з юнацтва слова «Універсам» у вочы кідаецца яркая неонавая шыльда «Wildberries».

Вось і думай цяпер: адкуль і куды прыехаў? Ці з Амерыкі ў Беларусь? Ці, можа, наадварот?..

*г. Юціка, штат Нью-Ёрк, ЗША.*




Гэры ЛАРСАН, ЗША.

## Не вялікая страта

Дзядулем называюць –
Дык гэта не бяда.
Гады з яго сцякаюць,
Як з гусака вада.



На маладзіц-паненак
Ён вока палажыў.
Да пекных іх каленак,
Хоць прывяжы, –
Бяжыць.

Калючыя шыпшыны,
Халодны вечарок...
Ён пешшу, без машыны
Шыбуе праз масток.

Сярод сяброў – навіны
(Прызнаўся дзед-хадок):
Схадзіў да той дзяўчыны,
Дык – чорт! – аж тры рабрыны
Зламаў там незнарок.



Наперад падганяе
Любошчаў прысак-жар.
На страты не зважае,
Таму што добра знае:
Рабрын ад роду мае
Ажно дванаццаць пар!

**Алесь ГОЦКА,**
*г. Навагрудак.*




*Гэта ваш сабачка?*

Пацалунак – гэта тое, што муж выпрошвае ў жонкі да вяселля, а яна ў яго – пасля.

**Лепшы спосаб арганізаваць паніку – папрасіць усіх захоўваць спакой.**

– Калі мы былі за мяжой, мясцовыя жыхары прызнавалі маю жонку святой.
– Вы ў Індыю ездзілі?



*Я ад фірмы «Ветравое шкло»*

Калі б месяцы не былі такімі доўгімі, зарплаты не здаваліся б нам такімі маленькімі.

**Калі б я разумеў усё жарты, я б даўно памёр ад смеху.**

Каб захаваць мір у сям'і, неабходныя цярпенне, каханне, паразуменне і хаця б два тэлевізары.

**– Калі ласка, не страляйце! У мяне чацвёра дзяцей, жонка, некалькі крэдытаў. Хаця... ведаеце што, забівайце!**



*Жылплошчаааа!!!!*



*На работу хадзіць ужо магу...*

Увага, бацькі! Ваша дзіця стала дарослым, калі на пытанне: «Што табе падарыць?» адказвае:
— Лепш грошы.

**Калі выкладчык абяцае аўтамат, гэта не заўсёды азначае залік. Часам гэта аўтамат Калашнікава, які ідзе ў камплекце з кірзавымі ботамі.**

Нельга глядзецца ў люстэрка, калі абедаеш — шчасце сваё праясі. І калі за гарэлку бярэшся, бо прап'еш яго. А ў туалеце люстэрка лепш наогул не вешаць...

**Праца ў камандзе вельмі важная. Яна дазваляе зваліць віну на іншага.**

Колькі б пра мяне ні казалі добрага, мне заўсёды ёсць, што дадаць!

**— Ведаеш, як зацікавіць дурня?**
**— Як?**
**— Заўтра раскажу.**

Ён быў настолькі сквапным, што нават з дзвюх бед выбіраў большую.

**Вясельны марш Мендэльсона неяк незаўважна, але незваротна ператвараецца ў... Марш чысці бульбу! Марш мый посуд! Марш вынось смецце!**

Калі зусім няма чым заняцца, то заўсёды можна перашкаджаць тым, у каго ёсць занятак.

**Аўтамабіль — гэта не раскоша, раскоша — бензін.**

Хутка лета, а мне і распрануцца няма ў што.

**Муж — гэта такое стварэнне, якое, вымыўшы пару талерак, глядзіць на жонку, быццам усю кватэру прыбраў!**

Вадзіцелі маршрутак пакланяюцца шасцірукаму богу Шыве.

**Сабрала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 6 (1557), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.06.2018. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,28. Тыраж 785 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





*Пачакаем, хутка будзе каманды даваць...*






**Віншуем мастака Аляксандра ШМІДТА з выхадам яго зборніка карыкатур пад назвай «Проверка зрением». Друкуем некалькі твораў з гэтай кніжкі, жадаем аўтару новых творчых поспехаў і кніг!**







Мы не мясцовыя…

Пётр КОЗІЧ.

*Хоць і даймае нас спякота,*
*Ды пасмяяцца усё ж ахвота.*

*Дарэмна часу не губляй,*
*Хутчэй падпіску афармляй!!*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2018 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,70 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,74 рублёў,
індэкс 748442, цана 13,16 рублёў,
індэкс 01381, цана 10,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




